ЯКУБ
КОЛАС

# РЫБАКОВА ХАТА

ПАЭМА

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МІНСК 1947

ВЫБРАНЫЯ ТВОРЫ

# БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

* *
*

1917 – 1947



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МІНСК

ЯКУБ КОЛАС

# РЫБАКОВА ХАТА

ПАЭМА

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БССР
МІНСК 1947

## ЯКУБ КОЛАС

Выдатны паэт беларускага народа Якуб Колас—адзін з самых папулярных і любімых пісьменнікаў совецкай краіны. Літаратурна-мастацкая творчасць Я. Коласа з'яўляецца састаўной і неадрыўнай часткай соцыялістычнай культуры совецкага народа.

Сорак адзін год таму назад, 1 верасня 1906 года, вышаў у свет першы нумар першай легальнай беларускай газеты «Наша доля». Рэдакцыя газеты, звяртаючыся да чытачоў, заяўляла:

«У дзісейшы вялікі момант, калі ўсе народы гасударства расейскага, аб'явіўшы вайну старым парадкам, напрагаюць усе свае сілы, каб дабіцца свабоды і лепшай долі, мы будзем разам з імі».

І тут-жа ў першым нумары рэволюцыйна-дэмакратычнай газеты быў надрукаваны першы верш Я. Коласа на беларускай мове «Наш родны край». Углядаючыся ў «мілыя вобразы роднага краю», паэт усюды бачыць страшны адбітак народнага гора і нядолі.

Наша поле кепска родзіць,
Бедна тут жыве народ,
У гразі жыве ён, ходзіць,
А працуе—льецца пот.
Пазіраюць сумна вёскі,
Глянеш — сэрца забаліць.
На дварэ—паленне, цёскі,
Куча сметніку ляжыць.
Крыж збуцвелы пры дарозе,
Куча топаляў сухіх...
Сцішна, нудна, бы ў астрозе
Ці на могілках якіх.
(«Наш родны край».)

1-га верасня 1906 года—дата выступлення ў літаратуры Я. Коласа — стала знамянальнай датай і бліскучай старонкай у гісторыі беларускай літаратуры. Імя Якуба Коласа, побач з імем яго славутага друга і паплечніка Янкі Купалы, залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю беларускай культуры. Янка Купала і Якуб Колас адкрываюць сваёй творчасцю новы і бліскучы этап у развіцці беларускай мастацкай літаратуры.

Паэтычныя творы выдатнейшых мастакоў слова—Янкі Купалы і Якуба Коласа знамянавалі сабой буйнейшы крок наперад у мастацкім развіцці беларускага народа.

Мастацкі талент Я. Коласа развіваўся пад непасрэдным уздзеяннем масавага рэволюцыйнага рабочага руху, пад жыватворчым уплывам пролетар-

скай літаратуры і ў першую чаргу творчасці вялікага пролетарскага пісьменніка А. М. Горкага.

Першыя паэтычныя радкі Я. Коласа нарадзіліся ў напружанай атмасферы рэволюцыі 1905—1907 гадоў. Яны напоўнены пякучай крыўдай за лёс «абяздоленага люду», гарачай і няўтольнай прагай барацьбы з «старым парадкам», з «багачамі і панствам», за шчасце і разняволенне прыгнечаных мас беларускага народа.

Свае песні паэт аддае тым, што «з голадам зрадніліся, худыя, абарваныя», тым, што «багатымі скрыўджаны, няволяю звязаны». Да іх накіраваны і першыя рэволюцыйныя заклікі паэта:

Ўстаньце, хлопцы, ўстаньце, браткі,
Ўстань ты, наша старана!
Ўжо глядзіць к нам на палеткі
Жыцця новага вясна.
Выйдзем разам да работы,
Дружна станем, як сцяна,
І прачнецца ад дрымоты
З намі наша старана!
(«Беларусам».)

Ужо ў першых песнях Я. Коласа царызм адчуў для сябе небяспеку. У асобе маладога паэта ён разгледзеў свайго непрымірымага ворага. Першы нумар «Нашай долі», дзе былі змешчаны паэтычныя творы Коласа і Цёткі, быў канфіскаваны паліцыяй.

Выхадзец з народных «нізоў», сын беззямельнага селяніна-лесніка, Я. Колас, падобна Т. Шэўчэнка і М. Горкаму, не з кніжак, а на ўласным вопыце пазнаў горкую долю і кроўныя інтарэсы беларускіх працоўных мас, стагнаўшых пад прыгнётам самаўладства.

Выдатнаму сыну беларускага народа даводзілася жыць, працаваць і ствараць свае творы пад уціскам улады памешчыкаў і капіталістаў, ва ўмовах нацыянальнай няволі, страшнага палітычнага тэрора, нечуваных цкаванняў і жорсткіх праследванняў паліцэйшчыны.

«Не вдруг решишься, — прызнаваўся Герцэн,—передавать свои мысли печати, когда в конце каждой страницы мерещится жандарм, тройка, кибитка и в перспективе Тобольск или Иркутск».

Мужны паэт Я. Колас «решился передавать свои мысли печати» ва ўмовах, калі сапраўды за кожным рухам яго пяра сачылі царскія жандармы. Канстанцін Міхайлавіч зведаў поўнасцю горыч жыцця бяспраўнага працоўнага інтэлігента, аддаваўшага свой талент справе служэння найшырэйшым пластам беларускага працоўнага народа.

За свае вольналюбівыя песні, за ўдзел у рэволюцыйным руху Я. Колас тры гады адсядзеў у царскім астрогу. Але ні нахабныя і неадчэпныя праследванні паліцыі, ні царская турма, ні беспрацоўе і голад не змаглі забіць або знясіліць рэволюцыйны дух коласаўскай паэзіі, зламаць волю паэта да барацьбы.

Пасланец у літаратуру ад працоўных мас, Я. Колас следам за Ф. Багушэвічам развіваў і прадаўжаў у беларускай літаратуры высокія традыцыі

рускіх рэвалюцыйных асветнікаў мінулага века. Ад іх унаследаваў Я. Колас погляд на паэзію, як на магутны сродак практычнага пазнання і змянення рэчаіснасці, маральнага і ідэйнага выхавання чалавека.

Падобна Белінскаму, Чэрнышэўскаму, Дабралюбаву, Т. Шэўчэнка і Некрасаву, Я. Колас сцвярджаў актыўна-дзейснае, соцыяльна-значымае мастацтва. Ён не мысліў мастацтва ў адрыве ад грамадскага служэння народу.

У вершы «Песняру» Я. Колас стварае мужны вобраз паэта-грамадзяніна, паэта-барацьбіта. У поўнай адпаведнасці з наказам, які даваў паэту Некрасаў («Поэт и гражданин»), Якуб Колас патрабуе ад пісьменніка такой песні, якая-б «паліла нядолю людскую» і «грымела, як гнеў перуна»:

Заспявай-жа ты песню такую,
Каб маланкай жахала яна
І паліла нядолю людскую,
Каб грымела, як гнеў перуна.
(«Песняру».)

Усёй сваёй творчасцю Я. Колас змагаўся супроць рэакцыйнай тэорыі «чыстага мастацтва», супроць мастацтва суэіральнага і пасіўнага, адарванага ад жыцця і далёкага ад надзённых патрэб народа.

Паэтычная і грамадская дзейнасць народнага паэта з'яўляецца выдатнейшым узорам грамадскага служэння народу.

Мы ведаем Я. Коласа, як паэта, празаіка, драматурга, літаратурнага крытыка, мовазеда, педагога, вучонага і буйнейшага грамадска-палітычнага дзеяча.

Літаратурна-мастацкая спадчына Я. Коласа гэта — незлічонае багацце думак і настрояў, яна рознастайна ў сваіх паэтычных тэмах і вобразах, сюжэтах, матывах і літаратурных жанрах. Творчасць народнага паэта заўсёды вызначалася жывой і страснай цікавасцю да вялікіх і грамадска-значымых праблем і пытанняў.

Асноўны герой дакастрычніцкіх твораў Я. Коласа—чалавек працы, селянін - бядняк, панствам «адціснуты ў балоты», «скрыўджаны багатымі», «няволяю звязаны». Паэт не аддзяляе сябе ад свайго абяздоленага героя. Больш таго, паэт злівае сваё лірычнае «я» з вобразам соцыяльна і нацыянальна прыгнечанага беларуса, як гэта можна бачыць, з твора «Мужык»:

Я—мужычы сынок,
Я не маю дарог,
Мая школка—шынок,
Маё жыцце—астрог.
(«Мужык».)

У паэтычным вобразе працаўніка-хлебароба і выступае ў творах Коласа «працоўны люд» з яго поглядамі і пачуццямі, з яго бядотамі і радасцямі, з яго «доляй і нядоляй».

Шчырай жальбой прасякнуты творы паэта, прысвечаныя замалёўкам «роднага краю». Цёплыя словы любві і павагі накіроўвае паэт да роднай зямлі:

Вобразы мілыя роднага краю,
Смутак і радасць мая!
Што маё сэрца да вас парывае?

Чым так прыкованы я
К вам, мае ўзгорачкі роднага поля,
Рэчкі, курганы, лясы,
Поўныя смутку і жальбы нядолі,
Поўныя сумнай красы?

Пакрыўджаная і бяспраўная «родная краіна» ў мастацкіх замалёўках Коласа такая-ж «сумная і гаротная», як і «доля мужыка».

Матывы грамадзянскага смутку, якія маюць месца ў творах паэта, прысвечаных бацькаўшчыне, не маюць нічога агульнага з песімізмам. Гэта матывы смутку паэта-грамадзяніна, які хварэе душой за лёс сваёй радзімы, за свой народ. І таму грамадзянскі смутак Коласа гэта—смутак патрыёта, смутак моцнага і мужнага чалавека.

У супроцьлегласць нацыяналістычнаму рамантызму ліберальных пісьменнікаў, якія ў сваіх мастацкіх творах прыкрашвалі тагочасную беларускую рэчаіснасць, Я. Колас смела, адкрыта, поўным голасам пісьменніка-барацьбіта гаварыў аб соцыяльных і нацыянальных кадрах і патрабаваннях беларускага народа.

Родная краіна, прыгнечаная самаўладствам, абрабаваная і эксплаатуемая «багачамі і панствам» у творах Коласа знаходзіць сваё суровае рэалістычнае і праўдзівае адлюстраванне.

Колас, як сапраўдны грамадзянін, па-сыноўяму любіў і шанаваў сваю маці Беларусь, родную мову, беларускую культуру. Патрыятызму Коласа, як і патрыятызму Пушкіна, Некрасава, Шэўчэнка, Горкага, абсалютна чужы і варожы нацыянальная выключнасць і нацыянальная абмежаванасць.

З павагай і пашанай наш паэт становіўся да вялікай культуры і літаратуры рускага народа і іншых брацкіх народаў Расіі.

Рэальную магчымасць соцыяльнага і нацыянальнага разняволення сваёй краіны Колас бачыў у сумеснай рэволюцыйнай барацьбе прыгнечаных народаў Расіі.

Я. Колас стварыў неўміручыя карціны з жыцця працоўных мас беларускага народа часоў царызма. З бязлітаснай суровасцю паэт раскрывае жахлівыя пакуты абяздоленых жыхароў вёскі, малюе іх цяжкую працу «на другіх», іх галечу і жабрацтва, незлічоныя здзекі над селянінам, праўдзіва жывапісуе складаную і напружаную барацьбу чалавека працы за волю і светлую долю.

Колас апеў і ўславіў працу чалавека. Падобна М. Горкаму беларускі паэт паказвае працу, як сілу арганізуючую і ўзвышаючую чалавека, як магутны сродак пераўтварэння света. Паэт узнімае голас пратэсту супроць эксплаатацыі капіталізмам народнай сілы, здольнасці і працы чалавека.

Паэт з абурэннем гаворыць пра эксплаататараў, як ворагаў народа:

Эх вы, дармаеды,
Моль вы, вош людская!
А хто-ж вас, праклятых,
На плячах трымае?

Рэалістычныя карціны соцыяльных умоў існавання беларускага «мужыка» пад гнётам буржуазна-памешчыцкай улады, псіхалагічныя і бытавыя замалёўкі, як і шматлікія вобразы працоўных людзей, сагрэты хвалюючай любоўю аўтара да працоўнага чалавека, да абяздоленага народа. Яны звеяны сапраўдным гуманізмам, прасякнуты пафасам рэвалюцыйнай барацьбы, ідэяй рашучага і бязлітаснага знішчэння «старога парадку»:

Не бядуй, што сонца нізка,
Што праходзіць нудны дзень,
Не бядуй, што восень блізка,
І лягла на землю цень.
Дымам пойдзе ўсё ліхое,
Ўсё, што душыць нас і гне.
Вер, брат, жыцце залатое
Будзе ў нашай старане,—

упэўнена сцвярджае паэт. Ва ўсіх творах паэта яго героі настойліва змагаюцца за свабоду, нястомна шукаюць праўды на зямлі.

Але «жыццё залатое», у прыход якога так моцна верыў паэт і яго героі, не прыдзе само. Яго трэба заваяваць у крывавай і жорсткай барацьбе з царызмам, памешчыкамі, капіталістамі. Народнае шчасце не сумяшчальна, па думцы паэта, з панаваннем цара, багачоў і панства.

Не, не будзе нам жыцця,
Як паноў не перавешаць,—

гаворыць радавы селянін з твора Коласа «Наша доля».

Грамадзянская лірыка і соцыяльна-бытавыя навелы пісьменніка напоўнены сатырычным выкрыццём сапраўдных віноўнікаў народнай нядолі, гора і слёз, напоўнены бязлітасным адмаўленнем царскай манархіі.

У духу сатырычных куплетаў Некрасава і Беранжэ, Колас піша сатырычныя песні, у якіх са смеласцю мужнага барацьбіта, востра і знішчальна крытыкуе і высмейвае царскую манархію, буржуазна-памешчыцкую ўладу і яе парадкі. Паказальным у гэтых адносінах з'яўляецца дасціпны верш «Асадзі назад».

Ва ўмовах царызма, ва ўмовах соцыяльнага прыгнечання і нацыянальнай няволі селяніну зачынены ўсе дарогі да лепшага жыцця. Са стрэльбай у руках, — кажа паэт, — працоўны чалавек сам павінен прабіць сабе дарогу да лепшай долі. Да ўзброенай барацьбы заклікае паэт сваіх герояў. І гэтыя заклікі знаходзяць жывы водгук у шырокіх пластах народа. Коласаўскі герой у творы «Мужык» спакойна, але рашуча заяўляе:

Я—мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Колас апаэтызаваў гордага і мужнага чалавека, уславіў подзвігі свабодалюб'я, склаў натхнёныя гімны гераічным барацьбітам за народную свабоду.

Лепш змагацца вольным, браце,
Чым цярпець ды гнуцца!

Я. Колас вітаў надыход ачышчальнай рэвалюцыйнай буры, якая павінна пакласці ў труну самаўладства, зламаць і разбіць ланцугі сацыяльнай і нацыянальнай няволі.

На небасхіле зарніцы мігцяць,
Громам узрушана грозная раць.
Мрак насядае глыбей і цяжэй.
Грымні-ж ты, бура, ды грымні дужэй!

Вершы Я. Коласа «Будзе навальніца», «Ноч перад навальніцай» і іншыя пераклікаюцца з рэвалюцыйна-рамантычнымі творамі А. М. Горкага.

Ленін у артыкуле аб Л. Талстым пісаў: «І калі перад намі сапраўды вялікі мастак, то некаторыя хоць-бы з істотных бакоў рэвалюцыі ён павінен адлюстраваць у сваіх творах».

Я. Колас як сапраўдны вялікі мастак адлюстраваў у сваёй дакастрычніцкай творчасці істотныя бакі супярэчлівага працэса развіцця буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі на Беларусі, выразіў свабодалюбівыя імкненні і рэвалюцыйныя здольнасці беларускага народа, паказаў яго жыццё і гераічную самаахвярную барацьбу супроць царызма і буржуазна-памешчыцкай улады. Вось чаму і прычыны супярэчнасцей, маючых месца ў творчасці Коласа, трэба шукаць не ў «суб'ектыўных» настроях аўтара, а ў аб'ектыўнай рэчаіснасці, як выражэнне супярэчлівага ходу развіцця буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі на Беларусі.

Вялікі пролетарскі пісьменнік А. М. Горкі адразу заўважыў і высока ацаніў творчасць выдатнейшага прадстаўніка беларускай літаратуры.

«Знаете вы, — пісаў Горкі да А. С. Чэрэмнага, — белорусских поэтов Якуба Коласа и Янку Купалу? Я недавно познакомился с ними — нравятся. Просто, задушевно и, видимо, поистине народно».

Ва ўмовах савецкага ладу ва ўсёй паўнаце выявіліся паэтычныя магчымасці Я. Коласа, а яго мастацкія творы сталі народным здабыткам і набылі шырокую вядомасць.

Зусім законамерным быў пераход паэта на пазіцыі сацыялістычнага рэалізма.

У радзе буйнейшых імён прадстаўнікоў і стваральнікаў сацыялістычнай літаратуры на адным з першых і ганаровых месц стаіць імя народнага паэта Савецкай Беларусі Якуба Коласа.

Бязмежная нянавісць да сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання, няўмольная крытыка і адмаўленне капіталістычнай рэчаіснасці,—складалі пафас дакастрычніцкай паэзіі Я. Коласа.

У творчасці Я. Коласа, як савецкага пісьменніка, на першы план высоўваецца пазітыўная задача, задача сцверджання станоўчых сацыялістычных ідэалаў. Гарачая абарона і сцверджанне новых сацыялістычных грамадскіх адносін, абарона кроўных інтарэсаў савецкага народа складаюць пафас паэзіі Я. Коласа нашага часу.

Узброены і натхнёны вялікімі ідэямі Леніна — Сталіна, цесна звязаны з жыццём совецкага народа, Я. Колас у шматлікіх паэтычных творах апеў веліч сталінскай эпохі і яе гераічных людзей. Паэт з радасцю гаворыць аб шчаслівым жыцці совецкага народа, аб грандыёзным размаху соцыялістычнага будаўніцтва на Беларусі.

Адзванілі званы на званіцах,
І збуцвелі, панікл' крыжы —
Зніклі цемры, імжы —
Новы край тут паўстаў з навальніцы.
Не пазнаць, Беларусь, цябе сёння,
Разгарнуўся працоўны твой люд!

Творы Коласа прасякнуты совецкім патрыятызмам, пачуццямі інтэрнацыянальнай салідарнасці і брацкай дружбы совецкіх народаў. У іх б'ецца жывы пульс сталінскай эпохі, адлюстраваны творчая, вялікай гістарычнай значымасці, праца і барацьба будаўнікоў соцыялізма.

Песні Коласа авеяны соцыялістычнай рамантыкай, у якой выяўляецца пафас будаўніцтва комуністычнага грамадства. Як сапраўдны совецкі патрыёт, паэт з захапленнем гаворыць аб велічы магутнага совецкага краю:

Шлях шырокі ў свет адкрыты...
Дык красуйся і жыві ты,
Наш совецкі край!

Паэт заклікае пільна ахоўваць совецкую зямлю і быць на варце інтарэсаў соцыялістычнай дзяржавы:

Стой-жа на варце,
Юная змена,
Чутка ахоўвай
Совет!

У совецкі перыяд сваёй творчасці пісьменнік стварае рад манументальных мастацкіх твораў, якія ўвайшлі ў залаты фонд соцыялістычнай літаратуры совецкага народа.

У глыбока эмацыянальнай і выключнай па вышыні вершатворнай культуры паэме «Сымон музыка» Колас адлюстраваў антаганістычную варожасць капіталізма да сапраўды народнага мастацтва.

У знамянальнай аповесці «На прасторах жыцця» пісьменнік адзін з першых у беларускай мастацкай прозе стварае разгорнуты вобраз станоўчага героя совецкай эпохі — комсамольца Сцяпана Баруты.

Любоў да радзімы і роднай совецкай улады, няўтольная прага да ведаў і творчай работы, цвёрдасць і ўпартасць у перамаганні цяжкасцей пры дасягненні пастаўленай мэты, ярка выражаны гуманізм — вось асноўныя рысы комсамольца Баруты.

Барацьба беларускага сялянства за новую соцыялістычную вёску знайшла сваё адлюстраванне ў творах Коласа на калгасную тэматыку (аповесць «Адшчапенец»).

Нельга пераацаніць ідэйна-выхаваўчае значэнне аповесці Я. Коласа «Дрыгва». Напісаная на партызанскую тэму, «Дрыгва» ўзбройвае нашу моладзь ведамі партызанскай барацьбы, выхоўвае ў яе вялікія пачуцці савецкага патрыятызма, мужнасці і бясстрашша ў барацьбе з ворагам. У часы Айчыннай вайны кніга Я. Коласа «Дрыгва» адыграла вялікую ролю ў разгортванні партызанскага руху на Беларусі, у выхаванні народных мсціўцаў.

У дні Айчыннай вайны, у цяжкія гады суровых выпрабаванняў, з новай сілай загучаў паэтычны голас савецкага пісьменніка, адданейшага патрыёта савецкай радзімы.

Песні Коласа знаходзілі гарачы водгук у сэрцах савецкіх людзей, якія грудзьмі сталі на абарону свабоды і незалежнасці соцыялістычнай дзяржавы. У часы грознай небяспекі, навісшай над савецкай зямлёй, паэт заклікаў:

На бой, на бой, на смертны бой
Выходзьце дружнай грамадой.

Патрыятычныя песні Я. Коласа заклікалі да мужнасці і стойкасці ў барацьбе з ворагам, узбройвалі савецкіх людзей лютай нянавісцю да гітлераўскіх людаедаў, натхнялі савецкіх людзей і ў баі і ў працы на бессмяротныя подзвігі ва славу радзімы.

З пачуццём гонару за магутнасць савецкай дзяржавы і мужнасць савецкіх людзей паэт гаварыў:

Веру, веру ўсёй душою —
Рухне сіла цьмы,
І высока над зямлёю
Сцяг падымем мы.

Паэт з гараччу, з глыбокім болем у сэрцы перажываў пакуты свайго народа і роднай краіны ў чорныя дні нямецкай акупацыі Беларусі. Паэт-патрыёт цвёрда быў пераконан, што Савецкая Беларусь не стане на калені перад ворагам, што свабодалюбівы беларускі народ не сагнецца пад цяжарам вялікіх выпрабаванняў, а смела і рашуча пад кіраўніцтвам партыі будзе стойка змагацца за справядлівую справу савецкага народа.

Зямля мая, мая краіна!
Я чую твой прызыўны звон.
Прымі-ж хоць слова свайго сына —
Не доўга будзе твой палон.

Шумяць гняўліва твае пушчы,
Трасуцца помстаю бары,
І дзень твой хмуры зрок расплюшчыць —
Ёсць у цябе багатыры!

Пераможны разгром ненавіснага ворага, вызваленне савецкай краіны ад навалы фашысцкіх разбойнікаў Я. Колас, як і ўвесь савецкі народ, звязваў з геніем вялікага Сталіна. Паэт славіць вялікага і мудрага Сталіна, арганізатара нашых перамог.

Жыві, правадыр наш!
Пад сцягам тваім
Жыві, наша слава!
Згінь, вораг крывавы!
Развейся у попел, у дым!

* * *

У 1947 годзе Я. Колас завяршыў працу над вялікай паэмай «Рыбакова хата». Гэта паэма з'яўляецца адным з найбольш значных твораў сацыялістычнага рэалізма і знамянальнай вехай у развіцці беларускай савецкай літаратуры. Гэта глыбока-праўдзівы і высокамастацкі, сапраўды патрыятычны твор.

Паэма «Рыбакова хата» прасякнута духам ваяўнічай бальшэвіцкай партыйнасці. У ёй натхнённа сцвярджаецца высакароднае пачуццё патрыятычнай гордасці савецкага народа. Новы твор Коласа дапамагае ўсведамленню велічы нашай сацыялістычнай Радзімы. Сродкамі мастацкай літаратуры пісьменнік раскрывае перад чытачом ідэйна-маральную перавагу савецкага грамадскага ладу над капіталістычным, услаўляе духоўную прыгожасць, невычарпальныя творчыя сілы савецкага народа і яго сусветна-гістарычныя заслугі перад чалавецтвам.

Паэма Коласа ідэйна ўзбройвае чытача, натхняе яго на вялікія справы ва славу Радзімы. У гэтым вялікае ідэйна-пазнавальнае і выхаваўчае значэнне новага твора народнага паэта.

Паэма прысвечана мастацкаму паказу паднявольнага жыцця беларускага сялянства Заходняй Беларусі пад прыгнётам буржуазна-шляхецкай Польшчы.

На працягу амаль дваццаці год гэта тэма не выходзіла са старонак беларускай савецкай літаратуры. Ей прысвяцілі свае задушэўныя творы Янка Купала, Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, Кузьма Чорны, Максім Танк, Пімен Панчанка, Піліп Пестрак і многія іншыя беларускія празаікі і паэты. Ды і зараз гэтая тэма не згубіла сваёй цікавасці і прыцягвае да сябе творчую ўвагу беларускіх пісьменнікаў.

Названая тэма не з'яўляецца новай і ў творчасці Якуба Коласа. Народны паэт неаднаразова звяртаўся ў сваіх паэтычных і празаічных творах да гэтай хвалюючай і невычарпальнай тэмы.

У славутай паэме «Новая зямля» Я. Колас прысвяціў Заходняй Беларусі хвалюючыя старонкі. З гарачча гаворыць паэт у гэтым творы аб бязрадасным лёсе і пакутах пяцімільённага беларускага народа заходніх абласцей Беларусі, закутага ў «ланцугі няволі» польскімі магнатамі і капіталістамі. Гнеўныя словы праклящца накіроўвае ён супроць панска-паліцэйскай Польшчы, пад прыгнётам якой пакутвалі працоўныя масы Заходняй Беларусі. Звяртаючыся да роднага краю, паэт пісаў:

Эх, мілы край адвечнай мукі!
Пракляты будзьце, вусны, рукі,
Што на цябе ланцуг кавалі
І ў твар зняважліва плявалі!

У лірычных вершах Я. Коласа на заходне-беларускія матывы («Братам Заходняй Беларусі», «Польскім катам», «Грамадаўцам» і інш.) выразна гучыць нязломная ўпэўненасць у няўхільны надыход «ясных дзён вызвалення» для Заходняй Беларусі.

Праз умацаваныя кардоны і рагаткі панскай цэнзуры прабіваліся вершы Я. Коласа ў Заходнюю Беларусь і знаходзілі там шырокі водгук у сэрцы беларускага народа, уздымалі яго да барацьбы. У лірычным вершы «Братам Заходняй Беларусі», напісаным дваццаць год таму назад, паэт, заглядваючы ў будучыню, прадракаў:

Няхай караюць там сурова,
Каб дух народа загасіць;
Браты! мінецца ліха-гора,
І панскі шал заткнецца скора,
Бо стукне молат па панах.

Вольналюбівы беларускі народ і яго спрадвечныя прыгняталынікі—польскія паны і капіталісты супроцьстаўляюцца ў паэме, як дзве непрымірымыя варожыя адна другой сілы. Паміж імі вядзецца зацятая, ні на хвіліну не патухаючая, напружаная барацьба.

Знаёмячы чытача з беларускай вёскай Петрушы, аўтар паэмы зазначае:

Даўно вядзецца, хоць і глуха,
Вайна з пальшчызнаю ў сялян.
. . . . . . . . . .
І не сайдуцца аніяк
У шлях адзін іх два гасцінцы.

Непрымірымая барацьба гэтых двух класава-варожых сіл і складае сабой сюжэтную аснову твора «Рыбакова хата».

Галоўныя героі паэмы — гэта радавыя сяляне заходне-беларускай вёскі: бабыль Сымон Латушка, парабак Даніла Дроб і яго жонка Марына, бядняк Лямех Аўген, дзед Куцейка і іншыя.

Як жывыя, паўстаюць перад намі са старонак твора тыповыя вобразы абяздоленых людзей беларускай вёскі, абрабаванай і прыгнечанай польскім панствам і буржуазіяй, пераканаўчыя карціны іх побыту, паднявольнай працы і барацьбы.

Праўдзіва і рэалістычна малюе пісьменнік жыццё сваіх герояў.

Спакойна жыў працавіты і адзінокі бабыль Сымон Латушка. Гэта вольналюбівая натура, «рыбак заядлы і дудар». Весяльчак і балагур, ён быў жаданым госцем у кожнай вясковай хаце. Сяляне любілі і паважалі Сымона за яго дабрату і працавітасць, за вясёлы характар і дасціпны розум.

Бабыль-рыбак любіць сваю працу. Ён старанна займаўся рыбацтвам, але нядоўга.

Рэакцыйны ўрад панскай Польшчы, разам з «панамі вяльможнымі» завялі «такі лад і парадак», «што застагналі ўсе Сымоны».

Польскія ўлады так прыцiснулі рыбака падаткамі і штрафамі, так дапяклі Сымона неадчэпныя паліцыянты, што ён мусіў адцурацца ўлас-

най хаты, бацькоўскага загона і падацца ў свет. Сымон затаіў у сэрцы пякучую крыўду на «панскі лад», які зрабіў з яго бяспраўнага жабрака-бяздомніка.

Нечуваныя здзекі, холад і голад церпіць сям'я парабка Данілы Дроба. Маладая пара — Даніла і Марына толькі год «як пабраліся». Маладыя людзі песцяць надзею:

Зажыць па-людску — а не гэтак,
Як у пячуры таракан.
Даволі жыць чужой скарынкай,
Хадзіць па людзях бабылём.
Цяпер іх двое, і з Марынкай
Яны збудуюць новы дом.

Працай сваіх уласных рук Даніла і Марына спадзяюцца прыдбаць свой дом, кавалачак зямлі, стаць незалежнымі і самастойнымі гаспадарамі. Гэтыя ілюзорныя мары Данілы і Марыны ў хуткім часе былі дашчэнту разбіты жыццём. Маладыя людзі зразумелі, што «ў панскай Польшчы люд рабочы не пабудуе сабе дом». Гэтую горкую ісціну Даніла вынес не толькі з сваіх назіранняў над жыццём аднавяскоўцаў, але і перш за ўсё з свайго ўласнага вопыту.

Асаднік выкінуў сям'ю Данілы з старэнькай хаты на вуліцу. Яго працай жывяцца ненасытныя паны, чыноўнікі і асаднікі. Над ім здзекуецца і яго-ж абірае польская дзяржава. За кожным яго крокам сочаць паліцэйскія і шпіёны. Куды ні глянь — усюды па беларускіх вёсках і мястэчках:

Лютуюць дзікія расправы,
А чуць дзе што — суды, астрог,
Расце густы чартапалох,
І горкі дым плыве з Варшавы.

Не мінуў астрога і Даніла. Трапіў ён туды з тае толькі прычыны, што жадаў «жыць па-людску». А ва ўмовах буржуазна-шляхецкай Польшчы гэтае жаданне паднявольнага беларускага «хлопа» лічылася дзяржаўным злачынствам і каралася доўгімі гадамі астрога, а часта і смерцю.

Трагедыя жыцця сям'і Данілы, як і яго друга рыбака Сымона, абумоўлена ўсім укладам грамадска-палітычнага жыцця імперыялістычна-шляхецкай Польшчы. Лёс Данілы ў паэме выступае не як адзіночны выпадак зменлівасці лёсу, а як мастацка-абагулены тыповы жыццёвы шлях беларускага сялянства ва ўмовах польскай капіталістычнай сапраўднасці. Мастацкае раскрыццё галоўных герояў паэмы даецца ў тыповых абставінах іх штодзённага жыцця, побыту і паводзін.

Адну за другой малюе пісьменнік рэалістычныя карціны суровай і бязрадаснай вясковай будзёншчыны і гэтым самым ставарае скульптурна выразны, патрасаючы па сваёй рэалістычнай праўдзівасці вобраз беларускай вёскі, даведзенай да поўнага разбурэння і жабрацтва двац-

націгадовым варварскім гаспадараннем польскіх памешчыкаў і капіталістаў.

Такім, іменна, мастацка абагульняючым вобразам заходне-беларускай вёскі і з'яўляецца ў паэме вёска Петрушы.

Уважліва сочыць пісьменнік за ўсімі падзеямі, якія адбываюцца ў вёсцы Петрушы, падрабязна знаёміць чытача з яе побытам, з жыццём і працай яе жыхароў.

З кожнай драбніцы вясковай рэчаіснасці свеціцца сялянская нядоля. Вёска Петрушы не радуе вока сваім сумным выглядам. Маленькія збуцвелыя, згорбленыя сялянскія хаткі ўраслі «ў пясчаны дол». На стрэхах куп'ём парос зялёны мох. «Не дужа ветла» ў сялянскіх хатах.

Акенцы скошаны на бок,
А столь закурана і нізка.
Дзе трудна жыць і павуку.

У курных хатах пануе бясхлебіца, нядоля, жабрацтва. Вузенькія сялянскія палеткі шчыльна ціснуцца адзін да другога. Зямля неўрадлівая і тае не стае. Усе лепшыя землі ў польскіх паноў, кулакоў, асаднікаў. А сапраўднаму гаспадару гэтых земляў — беларускаму працоўнаму селяніну — «няма дзе павярнуцца». Польская дзяржава пасадзіла на яго шыю польскіх асаднікаў, якіх беларускі селянін трапна назваў скуламі на сялянскім целе.

Над вёскай Петрушы безраздзельна пануе жорсткая ўлада польскага асадніка Мікодыма Богута. Павук-асаднік з ведама «паноў з павета» эксплаатуе і абірае сялян, беспакарана свавольнічае і здзекуецца над працоўным людам. Паліцэйскія шпіёны штодня гойсаюць па вёсцы, наводзячы жах на яе безабаронных жыхароў. Петрушоўцы гібеюць у цемры, невуцтве і беднасці:

Няма дарослым заработкаў,
А дзеці босыя без школ,
І слова роднае ў загоне,
Няма сваіх газет, кніжок,
Ігрышчы, сходы ў забароне,
І кожны нішчыцца гурток.

Польскія паны і капіталісты ператварылі жыццё беларускага сялянства ў бясконцы ланцуг суцэльных пакут і здзекаў. З кожнай сялянскай душы нясуцца гнеўныя наракання на паноў, на антынародны польскі ўрад. Настроі сялянства ярка выяўляюцца ў наступных словах Марыны:

Няма сумлення ў іх, ні бога...
Ох, доля доля батрака!
Не зробіш з імі ты нічога:
Адна іх шайка і рука.
Няма нам ходу і разгону,
Бо свет замкнулі шляхтуны,
І ўсё ў іх робяць па закону,
Законы-ж пішуць ім паны.

З затоенай нянавісцю і злосцю глядзяць Петрушы «на панскі лад», які так «уеўся ім у косці», петрушоўцы прагна чакаюць яго знішчэння, пагібелі:

Кіпела вёска глуха, скрыта,
Стаіўшы злосць сваю ў цішы.
На дом асадніцкі сярдзіта
Глядзелі моўчкі Петрушы.
Уеўся Богут ім у косці,
Агорк, абрыд ім панскі лад.
Не раз няпрошаныя госці
Апошні скарб цягнулі з хат.
Ну, як вада плыве на кола,
Падатак, штраф, налогі, суд.
Калі-ж канцы ім будуць тут?
Калі іх, гадаў, будзе гола?

Страсна і гнеўна Я. Колас выкрывае ў паэме антынародны капіталістычна-шляхецкі лад тагочаснай Польшчы, як сканцэнтраванне самых агідных і ўродлівых форм соцыяльнага і нацыянальнага ўціску і эксплаатацыі.

Увесь грамадска-палітычны лад буржуазна-памешчыцкай Польшчы, увесь яе дзяржаўны апарат, рэакцыйная палітыка яе кіраўнікоў прама і груба накіраваны на абарону інтарэсаў польскіх магнатаў і капіталістаў на абрабаванне і эксплаатацыю працоўных, на бязлітаснае прыгнечанне заняволеных украінцаў, беларусаў і працоўных іншых нацыянальнасцей.

Яркімі прадстаўнікамі паліцэйска-панскай Польшчы і з'яўляецца ў паэме пан Богут «польскасці апора», «дзеяч пастарунковы» — пан Пшэбора, «вядомы гмінны кручкатвор», саквэстратар — пан Глынка, агент дэфензівы Гедвіла і г. д.

У вобразе асадніка Мікодыма Богута і пастарунковага пана Пшэборы пісьменнікам увасоблены і абагулены найтыповейшыя рысы пануючых рэакцыйных класаў панскай Польшчы: шляхецкае чванства і ганарлівасць, класавы эгаізм, звярыная ўласніцкая хцівасць, тупая бессардэчнасць, дзікая і шалёная нянавісць да працоўнага народа і ўсяго перадавога і прагрэсіўнага, хваравітая цяга і замілаванасць да злачынстваў, катаванняў і здзекаў над чалавекам, — вось найбольш характэрныя класавыя рысы і ўласцівасці польскіх прыгняталънікаў.

Мікодым Богут — жывы вобраз польскага асадніка, абмежаванага і тыповага «панскага служкі», бессаромнага і бессардэчнага праваднікa польскай урадавай палітыкі «на крэсах усходніх». Характарызуючы «польскасці апору» Колас заўважае:

Пан Богут — польскасці апора,
Яе нястомны праваднік,
І многа мае ў ёй прастору,
Пажывы шчыры каталік.

Праз падачу жывых дэталей пісьменнік стварае запамінаючыйся вобраз павука-асадніка:

Мікодым. Богут, той павук,
Што лістам сцеле перад панам,
Перад панамі гнецца ў крук,
Той самы Богут, што без жалю
Гатоў сарваць чужы кусок
І высмактаць з цябе ўвесь сок,
Свайго-ж не ўпусціць ні на цалю.

На слёзах і крывавым поце беларускага сялянства вырас багаты хутар асадніка Богута.

Асаднік Богут, паліцэйскі Пшэбора, саквэстратар Глынка абвяшчаюць сябе польскімі патрыётамі, для якіх нібыта няма нічога вышэй на свеце, як інтарэсы сваёй радзімы і польскага народа.

Я. Колас зрывае з богутаў хлуслівую маску патрыётаў. У рэалістычным асвятленні аўтара паэмы яны прадстаюць перад намі ў сваёй сапраўднай натуры, як махровыя польскія шавіністы, якім ні ў якой меры не ўласціва вялікае пачуццё любві да радзімы, да чалавецтва.

Заядлыя нацыяналісты, Богут і Пшэбора гучнымі словамі аб сваёй любві да радзімы прыкрываюць сваё імкненне зацвердзіць панаванне польскага панства і буржуазіі. Іх звярыная лютасць да прагрэса, дэмакратыі і народа асабліва ярка выяўляецца ў заалагічнай нянавісці да Савецкага Саюза, як надзейнага аплота міру, прагрэса і цывілізацыі.

Пісьменнік ускрывае метады і сродкі адурманьвання, духоўнага заняволення беларускіх народных мас, якімі карыстаюцца Богуты. Тупы і абмежаваны праваднік урадавай палітыкі на вёсцы дзялец Богут хаваецца за пропаведзь сярод беларускіх сялян чалавеканенавісніцкай расавай «тэорыі».

Доўга і нудна нягласны дэфензіўшчык Богут «даводзіць» парабку Данілу аб асаблівай культурнай і нацыянальнай місіі Польшчы, аб польскай нацыі, як вышэйшай расе, якой нібыта самім богам вызначана панаванне над іншымі нацыямі.

Бо ёсць адна з усіх культур —
Культура польская, васпане,

кічліва, з панскай фанабэрыяй крычаць богуты.

Бо Польшча гэта — шчыт Еўропы,
За Польшчу бог, за Польшчу люд,
І сама Польшча — божы цуд,
То што ёй значаць тыя хлопы,—

распінаецца «надзьмуты польскі патрыёт» у паліцэйскім мундзіры Пшэбора.

Я. Колас знішчальна выкрывае чалавеканенавісніцкую тэорыю расавай перавагі, як агіднейшага сродку ў руках імперыялістычных колаў польскай буржуазіі і памешчыкаў, атручвання свядомасці працоўных і разлічанага на тое, каб пасеяць нацыянальную рознь сярод працоўных розных нацыянальнасцей і тым самым аслабіць, раздрабіць і падарваць рэвалюцыйны рух, накіраваны супроць устояў шляхецка-буржуазнай Польшчы.

Адпаведна гістарычнай праўдзе Колас малюе змрочны вобраз панскай Польшчы як турмы народаў. У вобразе буржуазна-шляхецкай Польшчы з яе грамадска-палітычным укладам і культурай пісьменнікам абагулены найбольш істотныя і тыповыя рысы капіталістычнага ладу з яго ўпадніцкай буржуазнай культурай, накіраванай супроць усяго здаровага, высакароднага і чалавецкага.

У эмацыянальна-выразных карцінах Колас замалявaў тыя нечалавечыя здзекі, якія ўтвараліся афіцыйнай польскай дзяржаўнасцю і пануючымі рэакцыйнымі класамі Польшчы над мовай, культурай, нацыянальнымі звычаямі і традыцыямі беларускага народа, малюнкі жорсткай расправы з малейшымі праявамі свабодалюбівых імкненняў беларускіх працоўных мас.

Паны, дарваўшыся да трону,
Усё рабілі, што маглі,
Каб лад па іхняму закону
Закрасаваўся на зямлі.
Каб знішчыць звычаі і мову
І тых, хто жыў спакон вякоў,
Прывесці ў стан каталікоў
І пад сваю узяць ахову.

З пазіцый савецкай ідэалогіі пісьменнік падвяргае бязлітаснай крытыцы рэакцыйную ўпадніцкую капіталістычную культуру польскага панства і буржуазіі, культуру злотага і пугі, шыбеніц і прымусу.

За знешняй шляхетнасцю паноў Богута, Пшэборы, Глынкі і ім падобных хаваецца звярыны класавы эгаізм, бессаромнае здзекванне над працоўным чалавекам, апаганьванне ўсяго, што не ўжываецца з карысталюбівымі інтарэсамі польскіх эксплаататараў і прыгнятальнікаў. Вось, напрыклад, адна з дасціпных і вострых характарыстык, якія даюцца пісьменнікам афіцыйным абаронцам буржуазнай культуры:

Гедвіла — агент дэфензівы,
Якіх у панскай Польшчы шмат.
Культурны з віду і пыхлівы
І па натуры сваёй кат.

Пры першым-жа выпрабаванні наглядна выявіліся поўная нежыццяздольнасць, бессэнсоўнасць і антынароднасць польскай прагніўшай дзяржавы, з яе прагніўшай буржуазнай культурай і панаваўшымі ў ёй аджыўшымі грамадска-палітычнымі парадкамі. Пры першай-жа ваеннай сутычцы з фашысцкай Германіяй буржуазна-шляхецкая польская дзяржава раскідалася, як картачны домік.

У гумарыстычным тоне апавядае пісьменнік пра «надзьмутых польскіх патрыётаў» паноў Богута, Глынку, якія так многа крычалі аб сваім ваяцкім духу, аб сваёй «любві» да радзімы, а на справе аказалася, што ў момант, калі прыйшлося спраўдзіць свае пыхлівыя словы, яны, поўныя жывёльнага страху за сваю скуру, заняліся ратаваннем «сваіх маёнткаў і двароў», ратаваннем саміх сябе, кінуўшы на волю лёсу «матку Польшчу», свае войска, насельніцтва.

Каліва высмейвае паэт польскіх прадажных правіцеляў і ганьбіць іх як мярзотнікаў і здраднікаў.

Усё змянілася адразу:
Развязны тон і жарт, настрой.
Ваяцкі дух, як па заказу,
Панік ганебна галавой.
І госцем зараз не цікавы
Гасцінны дом, гаспадары,
Іх сэрцу бліжай свае справы,
Свае маёнткі і двары.
І гэта—альфа і амега
Такой маралі ў час такі.

Змрочным вобразам польскіх прыгнятальнікаў супроцьстаўляюцца ў паэме высокародныя, гераічныя людзі — тыповыя прадстаўнікі вольналюбівага беларускага народа. На падзеях і фактах жыцця адной беларускай вёскі пісьменнік мастацка ўвасобіў складаныя ўмовы, перыпетыі і цяжкасці барацьбы беларускіх працоўных мас за сваё вызваленне з-пад панскага ярма і няволі.

Глухой сцяной сялянскай нянавісці абкружаны асадніцкія двары і панскія маёнткі. І няма ў вёсцы Петрушы, зазначае паэт, ніводнага селяніна, які-б пахваліў панскі лад.

Глядзелі скрыва петрушоўцы
На панскі рэй, на іх загад,
І не было таго прамоўцы,
Каб пахваліў ён панскі лад.
І як хваліць, калі ты звязан,
Калі табе разгон закрыт.

Паэма багата псіхалагічнымі замалёўкамі, якія даюць выразнае ўяўленне аб паступовым ідэйным росце беларускага працоўнага сялянства, паступовае нарастанне народнага гневу супроць ненавіснага грамадскага ладу белапанскай Польшчы, выспяванне народнай нянавісці супроць прыгнятальнікаў, якая ў любую хвіліну гатова вырвацца нанаверх і выліцца ў масавыя рэвалюцыйныя дзеянні.

Парабак Даніла Дроб спачатку спадзяваўся ўласным мазалём прыдбаць свой кут, кавалачак зямлі і зажыць па-людску. Але з цягам часу ён прыходзіць да вываду, што «рабочаму люду» ў панскай Польшчы ніколі не ўбачыць людскога жыцця.

«Трымацца лепш за грамаду» і стойка змагацца з ненавісным панскім парадкам — вось што становіцца баявым дэвізам яго жыцця.

Даніла паступова, але стала ўключаецца ў рэвалюцыйную барацьбу, загартоўваецца ў ёй і вырастае ў нязломнага змагара, якога не змаглі зламаць або паставіць на калені ні панскія турмы, ні катаванні. Закуты ў ланцугі і кінуты ў астрог, магутны барацьбіт Даніла марыць толькі аб адным: як мага хутчэй наблізіць грозны час расплаты з ненавіснымі ворагамі.

О, каб яму ды воля, сіла!
Як адплаціў-бы ён за здзек
Панам, іх катам тоўстарылым!
Без жалю рэзаў-бы і сек.

У гэтых словах пісьменнік праўдзіва выявіў кіпучую нянавісць змагара да сваіх ворагаў.

У сэрцы мірнага рыбака Сымона Латушкі таксама паступова нарастае гнеў супроць паноў. Яго азлобленасць супроць сваіх прыгнятальнікаў, якая ў першы час выліваецца ў анархічныя дзеянні, паступова перарастае ва ўсвядомленую класавую нянавісць. Моцна пакрыўджаны панамі рыбак уздымае ўрэшце руку на паноў.

Пад уплывам разгортвання рэвалюцыйнай барацьбы расце свядомасць найбольш адсталай, найбольш забітай часткі вёскі—жанчын. Марына не так даўно хадзіла да асадніка з просьбай палепшыць долю парабка, спадзявалася на панскую дабрату і справядлівасць, а пазней яна пераконваецца ў правільнасці і неабходнасці таго шляху, які выбраў яе муж, намагаючыся дабіцца долі і шчасця для сябе і такіх, як ён сам.

Мацнее і шырыцца класавая салідарнасць сярод сялянства. Пан Богут выкінуў батрака з хаты — гэты ўчынак асадніка выклікае скрыты, але моцны пратэст сялян усёй вёскі Петрушы:

І ў Петрушах вядома стала,
Якое зло замысліў пан,
І гэта панская навала
Узбударажыла сялян.

Жывучы ў страшэнна цяжкіх, проста нечалавечых умовах сацыяльнай і нацыянальнай няволі, зносячы страшэнныя здзекі і нястачы, пакутуючы ў жудасных астрогах і турмах, — героі коласаўскай паэмы ні на хвіліну не трацяць надзеі на сваё вызваленне, на перамогу сацыяльнай справядлівасці. Жыццездольнасць, цвёрдая, непахісная вера ў светлую будучыню, рэвалюцыйны аптымізм, —неад'емная рыса ўсіх станоўчых герояў паэмы, як прадстаўнікоў мужнага і гераічнага народа.

Зацкаваная паліцэйскімі і асаднікам, няшчасная маладая жанчына Марына ў самыя трагічныя моманты свайго жыцця не траціць надзеі на светлую будучыню і сустрэчу з любімым мужам. З пялёнак яна ўнушае свайму сыну нянавісць да свету гвалту і нажывы, упэўненасць у нетрываласці панскага ладу, які павінен быць і будзе знішчаны. Марына ўпэўнена, што:

Тата вернецца на волю,
Лепшы знойдзем сабе кут
І пазбудзем панскі чмут
І прыдбаем шчасце, долю.

Лютыя катаванні і дзікія зверствы паліцэйскіх не згасілі ў душы мужнага вязня Данілы прагі да волі і веры ў лепшы лёс. Незадоўга да свайго арышту Даніла гаварыў Марыне:

Я не адзін — такіх мільёны,
І вер, Марына: прыдзе час —
Парвецца, лопне іхні пас,
І будзем мы пісаць законы!

Праз турмы і астрогі Даніла пранёс гэтую непахісную і жыццесцвярджальную веру ў надыход светлых дзён.

Жывая надзея і вера ў сваё вызваленне, уласцівая коласаўскім героям, вынікала з глыбокага ўсведамлення таго, што вялікі Савецкі Саюз прыдзе на дапамогу сваім родным, адзінакроўным братам і выратуе іх ад гібення і няволі.

Ды людзі ўсё-ж жылі надзеяй,
Што прыдзе час жаданых змен
Адтуль, з усходу, з яснай далі.

У самім факце існавання краіны соцыялізма героі коласаўскай паэмы бачылі надзейную гарантыю поўнага ажыццяўлення сваіх спрадвечных імкненняў да шчасця і волі.

У савецкім грамадскім і палітычным ладзе працоўныя Заходняй Беларусі бачылі жывое ўвасабленне сваіх самых затоеных і адвечных мар аб волі, соцыяльнай роўнасці і справядлівасці. Поўнае і надзейнае выратаванне ад голаду і холаду, галечы і цемры, ад усякага ўціску і эксплаатацыі ў соцыялізме і толькі ў соцыялізме — к такому вываду прыходзяць героі паэмы Коласа. К такому вываду прыходзіць заняволенае панамі беларускае сялянства. Гэтым самым паэт паказвае перавагу савецкага грамадскага ладу над усякім іншым грамадскім ладам.

Сымон Латушка з здаровай зайздрасцю і захапленнем апавядае свайму другу Данілу аб жыцці ў Савецкім Саюзе.

Не пан, а наш брат і рабочы
Жыццё там ладзяць, даюць тон.
Ім едкі дым не лезе ў вочы,
Ім там простор, ім там разгон.
У свет адкрыты ўсе дарогі,
Пасады ўсе даступны ім,
Ідзі рабі да поўнай змогі,
І скарб увесь лічы сваім.
Няма там стараст, ваяводы,
І паліцэйскага дзярма
Там і ў паміне ўжо няма.

Усе дваццаць доўгіх год працоўныя Заходняй Беларусі прагна сачылі за тым, што адбываецца ў Савецкім Саюзе. Скрозь усе перашкоды і густую сетку панскай цэнзуры, прабівалася да іх вялікая праўда аб шчаслівым і вольным жыцці савецкіх людзей.

Гераічная барацьба савецкага народа за перамогу Кастрычніка, як і напружаная гераічная праца па будаўніцтву новага соцыяльнага жыцця, натхнялі працоўных Заходняй Беларусі на барацьбу са сваімі ворагамі, усялялі ў сэрцы надзею на светлую будучыню, гартавалі іх мужнасць і стойкасць.

Сюды-ж трапляла часам слова
Сваіх братоў, сваіх сыноў,
Што падымала на паноў
І асуджала іх сурова.

17 верасня 1939 года мары працоўных Заходняй Беларусі збыліся. Савецкі народ падаў руку дапамогі сваім адзінакроўным братам-украінцам і братам-беларусам. У паэме майстэрскі выяўлена вялікая радасць вызвалення працоўных Заходняй Беларусі і іх гарачая ўдзячнасць вялікаму Сталіну.

А людзі ў вёсках, як у свята,
Сустрэць рыхтуюцца братоў...
Наш бацька Сталін, будзь здароў!
Жыві яшчэ гадоў багата.

З кожнага вызваленага сэрца нясецца народнае дзякуй вялікаму Сталіну. Беларускі народ з'яднаўся ў адзіную дзяржаву — Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку.

Паэма Я. Коласа «Рыбакова хата» — выдатны патрыятычны твор. У кожным радку паэмы выяўляецца арганічная злітнасць паэмы з сацыялістычнай Радзімай і савецкім народам, адчуваецца магутнае дыханне ленінска-сталінскіх ідэй.

З любоўю і захапленнем углядаецца паэт у «родныя вобразы» дарагой Радзімы і пачуццём савецкай нацыянальнай гордасці поўніцца яго сэрца за яе веліч, за яе магутнасць, за яе шчасце:

Вітаю вас, шляхі-дарогі,
У новы свет, у новы край,
Дзе на бязмежныя разлогі
Выходзяць сейбіт і ратай.
Паклон табе, зямля святая,
Адзеўшай новы свой убор.
Хай пышным цветам расцвітае
Савецкі родны мой прастор!
Я ў захапленні аглядаю
Абрысы новых далячынь,
Разлогі сонечных вышынь,
Што так жычліва свецяць краю.

У гэтых лірычна ўсхваляваных зваротах да Радзімы чуецца сыноўняя прывязанасць і пашана да маці-радзімы, пачуццё адказнасці за яе жыццё і дабрабыт.

Паэт горды за сваю народную дзяржаву, за савецкі грамадскі лад, усталяваны намаганнямі і сіламі саміх творцаў новага і шчаслівага жыцця, дзе няма і не можа быць месца прыгнечанню і эксплаатацыі чалавека чалавекам, дзе высока ўзняты годнасць чалавека, яго праца, творчыя ўзлёты яго думак.

У вялікіх і грозных выпрабаваннях савецкая дзяржава і савецкі грамадскі лад, савецкая культура паказалі сваю бясспрэчную перавагу над усялякім іншым грамадскім ладам.

Паэт натхнёна ўслаўляе совецкага чалавека, совецкі народ. Паэту радасна і шчасліва ад усведамлення таго, што ён сын вялікага совецкага народа — народа вызваліцеля, розум і воля, сіла і мужнасць якога выратавалі чалавецтва ад страшэннай пагрозы фашысцкай няволі.

Паэт славіць вялікую партыю Леніна — Сталіна, як увасабленне мудрасці і волі совецкіх людзей.

Высокая большэвіцкая ідэйнасць твора шчасліва спалучаецца з высокімі дасягненнямі паэта ў галіне мастацкай формы. Па сваёй ідэйнай накіраванасці і мастацкай форме гэта сапраўды народны твор.

*В. БАРЫСЕНКА.*

## *Раздзел I*

### 1

Глядзіць у вокны зімні вечар.
Кладзецца мрок на цесны двор.
Мароз-мастак рукой старэчай
На шыбах піша свой узор.
Ляжыць зямля ў адзенні белым,
І дрэвы ў шэрані стаяць.
Спакой халодны, амяртвелы
Паклаў на ўсё сваю пячаць.
Але жыве старая хата.
Як сведка прадзедаўскіх дзён,
Лучнік звісае, нібы звон,
І тоіць нейкі сум зацяты.

### 2

На лучніку гарыць карчажка,
Агоньчык весела шуміць,
Нібы жывы, нібы жар-пташка,
Ды пра сваё штось гаманіць.
Здавалася-б, у гэтай хаце,
Збуцвелай, згорбленай, старой
Павінен дзед быць на палацях,
Мудрэц з сялянскаю душой,
Або старая варажбітка,
Што прышлася можа расчытаць
Ды людзям дзіва паказаць
І цуд стварыць увачавідкі.

### 3

Не—тут якраз у цвеце сілы
І на зары свае вясны
Жывуць Марына і Даніла,
Год, як пабраліся яны.
Стаіць калодка сярод хаты,
А стук бяжыць ва ўсе вуглы:
Даніла справаю заняты —
На сані чэша капылы.
Пачэша, змерае на-вока,
Ці гладка выведзены чос,
А сам гадае пра свой лёс
І мыслі кідае далёка.

### 4

Сур'ёзны, сталы не па летах,
Гадуе ён у сэрцы план —
Зажыць па-людску—а не гэтак,
Як у пячуры таракан.
Даволі жыць чужой скарынкай,
Хадзіць па людзях бабылём:
Цяпер іх двое, і з Марынкай
Яны збудуюць новы дом.
Хібарка-ж гэтая старая
Ужо каторая пара
Гібее без гаспадара,
І дзе ён сам, ніхто не знае.

### 5

А жыў у ёй Сымон Латушка,
Яе законны гаспадар,
Натура вольная, як птушка,
Рыбак заядлы і дудар.
І жыў ён птушкай пералётнай,
Хоць, праўда, ў вырай не лятаў,
А больш на печы бестурботна
Зімою ночы каратаў.
Хіба як голад свае права
Прад'явіць грозна дудару,
То ён і ў зімнюю пару
На раздабыткі бег рухава.

6

Але няма ў яго маршруту,
Куды ісці, у двор які.
Ён на дварэ стаіць з мінуту,
Уважна нюхае дымкі.
І нос яго не ашукае,
Вядзе, як компас, у той двор,
Дзе гаспадыня запраўская
Пячэ бліны і скварыць здор.
І людзі ведалі Сымона,
Сымон людзьмі не злоўжываў,
Людскіх-жа звычаяў і праў
Трымаўся цвёрда, як закона.

7

К таму-ж яшчэ ён быў вясёлы,
На байкі здатны, на язык.
І словы сыпаў, як з прыполу,
Жаданы ўсюды жартаўнік.
Вясной, як толькі снег пагіне,
А рэчка ўвойдзе ў берагі,
Адзін Хрыстос жыве ў хаціне;
Сымон-жа сам ідзе ў лугі,
Нясе з сабою і ўсе снасці:
Вядзёрка, вуды, кацялок,
Садзіцца ў лёгкі свой чаўнок,
Упэўнены ў рыбацкім шчасці.

8

Вясна і лета — яго свята,
Яго жыццё, яго жніво.
Хоць ён і жыў не так багата,
Затое-ж воля, хараство,
Прастор нябёс, лугі і травы,
Паветра чыстае лясоў,
Агоньчык ветлы і ласкавы
І думы мірныя без слоў.
Ён зварыць смачную вячэру
І ляжа песціцца ў траве.
Няма турбот у галаве.
А вольны свет — яго кватэра.

9

Вось так і жыў Сымон Латушка,
Адзін, не звязаны нічым,
Сабе сам пан, сабе сам служка,
Ды ліха сталася і з ім.
Сымон вязаў на рыбу сеці,
А на Сымона ў гэты час
Паны вяльможныя ў павеце,
Як і на ўсіх, свой ткалі пас.
Снавалі ніці іх шпіёны,
Як павуціну павукі.
І лад заводзілі такі,
Што застагналі ўсе Сымоны.

10

Прышоў аднойчы панскі гончы,
Паліцыянт, агледзеў снасць
І актам свой агляд закончыў
Зусім Сымону не пад масць:
За волак вызначыў падатак.
За гушчыню-ж яго вачок
Накінуў злотых з поўдзесятак —
Плаці, Сымоне, і маўчок.
Затым пайшлі яшчэ падаткі
На хату, землю і на двор,
А там і штраф. Бадай іх мор!
Бадай на іх бог даў упадкі!

11

Сымон падумаў, паразважыў.
Плаціць... Каму? Трыбухачу?
Хутчэй ты здохнеш, сіла ўражжа,
Чым я налогі заплачу!
Сабраў Сымон свае манаткі —
У грунт не дужа ён урос, —
Хоць, праўда, шкода яму хаткі, —
Ну, што-ж, вартуй яе, Хрыстос!
І ён зірнуў на печ, на лавы,
На покуць, дзе вісеў абраз.
Бывай-жа, хата, добры час!
І ў свет пайшоў бабыль рухавы.

## 12

Тры годы хата пуставала,
Зямлю-ж гектараў паўтара
Прыбраў вясковы абдзірала,
Прыслужнік панскага двара.
А хто-ж Марына і Даніла?
Як апынуліся яны
У хатцы кінутай, панылай,
Дзе сцены курныя адны?
Не доўгі век маіх герояў,
Але калі зірнуць назад,
То ён падзеямі багат,
Не лёгкі шлях прайшлі абое.

## 13

Марына родам з-пад Пружанаў.
За нейкі час перад вайной
Бацькі яе неспадзявана
Памерлі ранняю вясной.
І засталася яна з братам.
Ёй дзесяць год, а брату тры.
Пайшла Марына жыць па хатах,
Таптаць чужацкія двары.
Была і нянькай і пастушкай
Без ласкі матчынай, адна,
А хлопчыка ўзяла радня,
Каб абярнуць і яго ў служку.

## 14

Была яшчэ адна падзея,
Што прыпаднесла ім вайна.
Успомніш — сэрца халадзее,
Душа калоціцца да дна.
Быў у Марынкі дзядзька родны.
І вось калі прышоў загад
З-пад фронту бегчы ў свет халодны,
То дзядзька, меншы бацькаў брат,
Падбіў Марынку ехаць з імі
І разам жыць з яго сям'ёй —
Чаго сланяцца ёй адной
Сіроткай горкай між чужымі?

15

Паехалі — яна, Ігнатка
Ды дзядзька з цёткай, іх сынок.
Куды? Ніхто не знаў парадкам,
Дзе іхні спыніцца чаўнок.
І дзень і два яны ў дарозе,
То гуртам едуць, то адны,
То заначуюць пры бярозе,
То ў лесе дзе каля сасны.
Было ў дарозе шмат відовішч,
Малюнкаў розных, гора, слёз,
Што тлум людскі з сабою нёс,
Што толькі чулым сэрцам зловіш.

16

Марынка чыста па-дзіцячы
На свет глядзела, на людзей,
І не тумаміў лёс бядачы
І новы дзень яе вачэй.
Яна то ехала на возе,
То йшла з Ігнаткам пехатой.
А стрэнуць хвойнік пры дарозе,
У хвойнік кінуцца стралой,
Ці ў лес дубовы на хвілінку,
Калі ён трапіцца грыбны.
Баравікоў збяруць яны
Ды едуць далей без упынку.

17

Так і праходзілі дні, ночы,
І лета ўжо ішло на сход.
А доўгі цень за імі крочыць,
І птушкі ладзяцца ў адлёт,
Яны ўсё едуць далей, далей.
З дня ў дзень з начлегамі цяжэй.
Глядзіць журботна цётка Галя,
Пануры дзядзька іх Аўдзей.
Марынка сэрцам адчувае,
Што, пэўна, лішнія яны,
Хоць і няма іх тут віны,
А дзядзька ў мыслях штось хавае.

18

Яна сама адчуе смутак,
Да брата туліцца бліжэй.
І шмат было такіх мінутак
Пачуццяў горкіх і надзей.
А дзень канчаецца тым часам,
Пара падумаць пра начлег,
Ды дзе спыніцца для папасу?
А лес абапал як на грэх.
— Ну, што-ж? У лесе паначуем:
Находзіць ноч, падбіўся конь.
Збірайце дровы на агонь. —
І дзядзька з коніка зняў збрую.

19

Прынеслі дроў, агню наклалі,
У прыску бульбы напяклі.
А ноч рассыпала каралі
Над гмахам сцішанай зямлі.
У лесе цёмна. Скрозь галіны
Цікуе месяц малады,
А дзесь з суседняй баравіны
Крычыць сава на ўсе лады.
Вячэра кончана, і цётка
Ідзе да воза слаць пасцель.
Марынка мох кладзе пад ель —
І тут ім будзе спаць салодка.

20

Яна, як маці, па Ігнатку
Раняе дух, глядзіць за ім.
Прылегла з брацікам, бы матка,
І сном заснулі маладым.
Праходзіць ноч, і меркнуць зоры.
Святлее ў лесе. З-за камлёў
Праменні сонца шле ў дазоры
І будзіць сірат-малышоў.
Марынка вочы расчыніла —
Не сходзіць з іх салодкі сон.
Глядзіць, як ночку правёў ён,
А хлопчык спіць з усмешкай мілай.

